*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 12 (449) 22 САКАВІКА 2000 г.**




# Прыходзь!

## Будзь разам з намі!

**Belarusan Canadian Coordinatindq Committee**
**Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады**
**Comite Bielorussien De Coordination Au Canada**

**Сакавік, 2000** **Яго Міласці Спадару Алегу Трусаву, Старшыні Таварыства Беларускай Мовы**

Вельмі Паважаны Спадар Старшыня!

Ад імя Каардынацынага Камітэту Беларусаў Канады вітаю Вас і сяброў ТБМ з 82-мі ўгодкамі 25 сакавіка – Днём Незалежнасці Беларусі.

82 годы таму назад 25 сакавіка ў Менску, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны суверэнны орган беларускага народа, сваёй Трэцяй Устаўной Граматай пад назвай Акту 25 Сакавіка перад усім светам абвесціла дзяржаўную незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой дагэтуль была Беларусь. Акт 25 Сакавіка мае для нас каласальнае значэнне:

1.Актам 25 Сакавіка беларускі народ заявіў усяму свету сваю волю быць незалежным і гэтым запачаткаваў у беларускім адраджэнскім руху новую эпоху змагання за дзяржаўную незалежнасць Беларусі – незалежніцкую эпоху.

2. Акт 25 Сакавіка паставіў на парадку дня міжнароднае арэны нявырашанае пытанне незалежнасці Беларусі.

3. З Актам 25 Сакавіка лічыліся і бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць, хай сабе і фікцыйную, БССР. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было бы і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а была бы толькі “Северо-западная” вобласць РСФСР.

4. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было бы прадстаўніцтва Беларусі ў Задзіночных Нацыях.

5. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было бы і Рэспублікі Беларусь.

Таму мы – дзе бы мы не знаходзіліся – у Еўропе, ЗША, Канадзе, ці Аўстраліі – з году ў год свята і ўрачыста адзначаем нашае найвялікшае нацыянальнае свята

**25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ.**

У нашым змаганні за права на жыццё беларускай мовы, ці інакш, за дзяржаўную незалежнасць Беларусі жадаем Вам вытрываласці і сілы духу!

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАННІ !**
**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !**

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Старшыня.*

# Адкрыты ліст да беларускага народа

Дарагія мае браты і сёстры-беларусы!

Звяртаецца да Вас Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – той Рады, якой беларускі народ у 1917 годзе даручыў свой лёс і якая абвесціла 25 сакавіка 1918 года незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. На долю Рады БНР выпала цяжкая адказнасць бараніць гэтую незалежнасць ды змагацца за яе ўсімі даступнымі сродкамі.

Рада БНР выбрала мяне на становішча старшыні ў 1997 годзе. Упершыню выбрала жанчыну, сіла якое – дазволю сабе сказаць словамі нашага вялікага Янкі Купалы – у “любові да свае Радзімы, да свайго народа”.

Напярэдадні нашага Дня Волі, дня, які нашыя суродзічы ўва ўсім свеце святкуюць як найвялікшае нашае нацыянальнае свята – нашае свята годнасці, бо ж у гэты дзень народ наш абвесціў свету, пасля доўгай няволі, што ён таксама хоча жыць вольным і незалежным ды быць гаспадаром у сваёй хаце – хачу падзяліцца з Вамі маім болем і маёй трывогай за Вашу будучыню і за будучыню Вашых дзетак і ўнукаў. Бо край наш знаходзіцца зноў у вялікай небяспецы. Зноў хочуць адабраць яго ў Вас, зняволіць Вас.

Сталін сваім часам нішчыў наш народ голадам, арыштамі і ссылкамі ў Сібір. Цяпер ягоныя паслядоўнікі Пуцін і Лукашэнка, пры дапамозе хлусні і паліцыйнай сілы намагаюцца паставіць Вас ізноў на службу “стратэгічным інтарэсам” Расейскай імперыі. Ва ўмовах зманапалізаваных сродкаў масавай інфармацыі Лукашэнкаўскі рэжым зацягвае Вас у так званую інтэграцыю з Расеяй. Але адзіны вынік гэтае прадажнае палітыкі будзе Вашае збядненне, ды ў канцы – знішчэнне Вас, як нацыі, як народа.

Дарагія мае браты і сёстры-беларусы, дарагая моладзь, любыя дзеткі (з тысячамі якіх я мела нагоду спаткацца тут у Канадзе)! Першы раз звяртаюся да Вас з адкрытым лістом, бо хачу, каб вы мяне пачулі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі робіць усё, што можа, каб памагчы Беларусі перажыць цяперашні крызіс ды выйсці з яго незалежнай, свабоднай і заможнай краінай. Але без Вашага ўдзелу мы не выратуем Бацькаўшчыну. Трэба каб і Вы паказалі свету, што Вы ведаеце вартасць волі, што не хочаце быць прыладай маскоўскага імперыялізму і праліваць за яго сваю крою.

Пры развале савецкай камуністычнай імперыі Бог даў нашаму народу вялікі падарунак – Волю. Такія цуды ў гісторыі не паўтараюцца. Дык не дапусцім жа, каб гэты падарунак пайшоў намарна. Беражыце гэты скарб Ваш. Пакажыце свету, што беларускі народ яшчэ жыве. У Дзень Волі 25-га сакавіка выходзьце сотнямі тысячаў на вуліцы. Ідзіце са сцягамі, свечкамі і абразамі. З малітвай да Бога, каб Ён паслаў “праменні Свае хвалы” на наш край і народ!

Жадаю Вам сілы, мужнасці, вытрываласці.

Жыве Беларусь!

***Івонка Сурвіла,Старшыня Рады БНР.***

## *25 Сакавіка – Дзень Волі*

У гістарычнай біяграфіі кожнага народа ёсць дзень, значэнне якога роўнае цэлай эпосе. Ён абазначае падзею, што асвятліла шлях развіцця этнасу, стварэння ім сваёй дзяржаўнасці, вызвалення аж чужынскай няволі. Гэта – дзень-сімвал, які штогод урачыстым, святочным успамінам аб'ядноўвае ўсіх грамадзянаў краіны, а па ўсім свеце – сыноў і дачок гэтага народа.

Свята ўсіх нарвежцаў, - 17 траўня, - называецца, як і у нас, Днём Волі. Грэкі святкуюць свой дзень незалежнасці разам з намі - 25 сакавіка.

Для грамадзянаў Беларусі, для ўсіх беларусаў у свеце галоўным дзяржаўным і нацыянальным святам - ёсць Дзень Волі 25 Сакавіка. Для нас ён роўны толькі галоўным хрысціянскім рэлігійным святам. Іншыя даты мінуўшчыны саступаюць першынство Дню Волі ў герархіі гістарычных дзён нашай нацыі і дзяржавы. Не выпадкова савецкая сістэма на дзесяцігоддзі выкрасліла Дзень Волі з беларускай гісторыі. Не выпадкова цяпер антыбеларускі рэжым ды ягоныя ліберальныя “апаненты” прыкладаюць столькі намаганняў, каб прынізіць выключнае, прыярытэтнае значэнне гэтага Дня, каб зацерці памяць аб ім, растварыць яго ў безаблічным шэрагу псеўдаюбілеяў. Дэзарыентаванаму грамадству прапануюцца надуманыя аўтарытэты і штучныя арыенціры.

Аднак народ разбярэцца, дзе праўда. У апошняе дзесяцігоддзе, пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі менавіта ў Дзень Волі беларусы выходзяць пад бел-чырвона-белым сцягам і гербам “Пагоня”, каб разам успомніць, што мы – вольны, еўрапейскі народ. Не ўдасца акупацыйнай уладзе забараніць нашыя сьвятыя сімвалы ды, пазбавіўшы нас гістарычнай памяці, загнаць назад у варварскую ўсходнюю імперыю, дзе пануюць голад і вайна. Менавіта на Дзень Волі 1996 года на вуліцах Менска пачалася абарона незалежнасці Беларусі, і ў тую гарачую вясну былі сарваныя планы імгненнай акупацыі нашай краіны паводле пакту “Ельцына-Лукашэнкі”. Пагроза нашай волі і незалежнасці не знікла, вораг працягвае сваю разбуральную дзейнасць. І сёлета 25 сакавіка мы, беларусы, мусім з радасцю і надзеяй адзначыць нашае нацыянальнае свята, цвёрда і рашуча выступіць у абарону незалежнасці нашай краіны.

Не па-архіўнаму гучаць залатыя радкі III Устаўной граматы ад 25 сакавіка 1918 году: “Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай незалежнасці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай”.

Наша гістарычнае заданне не згубіць найвялікшую нацыянальную каштоўнасць.

Жыве незалежная, вольная Беларусь!

**Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні Дня Волі 2000**
***Мікола Анцыповіч, намеснік старшыні КХП БНФ,***
***Юры Беленькі, в.а. старшыні КХП БНФ,***
***і яшчэ 48 подпісаў.***

# Гэта наша свята

Беларусь напярэдадні лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ў Расеі была разрэзана амаль напалову германа-расейскім фронтам. З заходніх паветаў да гэтага часу выехала ў бежанства больш мільёна жыхароў.

Вайна разбурыла гаспадарку нашага краю, пазбавіла сем'і кармільцаў, знясіліла ўвесь народ. Вось чаму крах дома Раманавых быў сустрэты паўсюдна з надзеяй на лепшае. Гэтая надзея была падмацавана яшчэ больш, калі бальшавікі, узяўшы ўладу, выкінулі лозунг аб міры, роўнасці народаў, зямлі і волі.

Аднак увесь 1917 год беларускаму вызвольнаму руху не ўдавалася абвесціць самастойнасць Беларусі, не збіраліся рабіць гэта і бальшавікі. Хутка ўрад Леніна, адчуўшы смяротную небяспеку з боку Германіі, 3 сакавіка 1918 года падпісаў у Берасці з немцамі мір. Згодна гэтага пагаднення Беларусь заставалася акупаванай аж па Воршу. Бальшавікі пацікі пакідалі абшары Беларусі. 19 лютага з-пад бальшавіцкага арышту ўцякаюць актывісты Цэнтральнай Вайсковай Рады К. Езавітаў, Я. Мамонька, В. Захарка (наш зямляк, дзядзька Ларысы Антонаўны Геніюш), праз тры гадзіны Вайсковая рада пастанавіла ўзяць уладу ў свае рукі і прызначыла камендантам Менска К. Езавітава. За суткі горад быў узяты, зліквідаваны спробы польскіх легіянераў генерала Доўбар-Мусніцкага перашкодзіць пераняццю ўлады, вуліцы ачышчаны ад выпадковых вайсковых частак, што адступаючы паспрабавалі наладзіць пагром. 24 сакавіка 1918 года ў 8 гадзінаў вечара пачался гістарычнае паседжанне Рады БНР, у парадку дня якога стаяла толькі адно пытанне – абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. На світанні 25 сакавіка была большасцю прынята Трэцяя Устаўная Грамата, якая абвясціла суверэнітэт Беларусі. Так нарэшце здзейснілася мара некалі слыннага ў Еўропе народа аб свабодзе і незалежнасці. Быў створаны першы ўрад БНР, большасць якога складалі сацыялісты па перакананнях, выхадцы з нізоў. Практычна заходы гэтага ўраду мала чым адрозніваліся ад заходаў бальшавіцкага ўраду ў Маскве, тая ж трактоўка пытанняў аб зямлі, свабодзе, працягласці рабочага часу, але была адна істотная адметнасць – урад адстойваў суверэнітэт Беларусі, а гэта было не да спадобы ні Пілсудскаму, ні Леніну. У віхуры франтоў Грамадзянскай вайны БНР была разгромлена, але да сённяшняга часу застаюцца светлымі яе ідэі, сімвалы, яе памяць. Яна жыве і будзе жыць, як покліч да сапраўднай волі, як прага да часу, калі над табою не будзе ні “старэйшых братоў” ні “роўных з роўнымі”.

Нажаль, што гэта такое ўявіць могуць пакуль што нямногія. Крыўдна, сёння ў Рэспубліцы **Беларусь Беларусі** няма, нават на могілках, пішам: “Здесь покоится...” Не чувасць сёння яе ні ў школе, ні ў парламенце, бо начале нашага краю сталі людзі, якія няздольны ўспрымаць сэрцам тыя даброты, якія для кожнага народа непарушальныя – Воля, Роўнасць, Незалежнасць. 25 сакавіка свядомая Беларусь святкуе чарговую гадавіну БНР, гадавіну надзеі, смутку, гонару.

*Антон Адзінец.*



№ 12 (449) 22 САКАВІКА 2000 г. НАША СЛОВА

*Расціслаў Завістовіч*

# ЗЛОЎЖЫВАННЕ СКАРОТАМІ

Аўтары тэкстаў газетных артыкулаў, часопісаў і нават кніжак на розных мовах вельмі часта ўжываюць скароты такія, як "і г.д." (і гэтак далей) альбо "і інш." (і іншыя). Гэтымі скаротамі аўтары карыстаюцца пры пераліку рэчаў альбо асобаў, каб сказаць, што пералік можна працягваць. Здавалася б, як кажуць цяпер у Беларусі, усё "нармалёва". Аднак, усё гэта так, ды не зусім. Чытаючы беларускія тэксты, ды не толькі тыя, што выдаюцца ў Беларусі, робіцца ўражанне, што часам аўтары злоўжываюць гэтымі скаротамі. Справа ў тым, што словы "і гэтак далей" часта не толькі не дапаўняюць ужо сказанага, але не нясуць у сабе ніякай інфармацыі. Больш таго, я адважуся сказаць, што часам скароты ўжываюцца, каб схаваць няведанне аўтарамі дадзенай тэмы альбо пераліку. Здаецца, каб гледзячы на тэкст, чытач мог прымусіць аўтара, каб той замест "і г. д." назваў наступнае канкрэтнае слова ў сваім пераліку, дык ён хутчэй, мабыць, збянтэжыў бы аўтара, чым атрымаў бы ад яго патрэбны адказ.

Яшчэ горшым скаротам ёсць "і інш.". У гэтым выпадку ўся ідэя ўжытку скароту часам мае вельмі мала сэнсу. Ізноў складаецца вось такое сумнае ўражанне, што пералічваючы, скажам, сяброў нейкай групы альбо арганізацыі, аўтар, праз няпэўныя веды свае тэмы, міжвольна катэгарые гэтых сяброў на тых, якія заслугоўваюць быць згаданымі ў пераліку і тых, якія не. Атрымоўваецца абразлівае стаўленне да тых, якія трапілі ў "іншыя".

Асабліва недапушчальным ёсць ужытак скаротаў у артыкулах даведнікаў, тлумачальных слоўнікаў, альбо энцыклапедыяў. Для прыкладу ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (том 1, 1993, ст. 384), выдадзенай у Менску, надрукаваны артыкул А.М.Сідарэвіча, "Беларуская Народная Рэспубліка", адзін з галоўных артыкулаў пра беларускую гісторыю. Хацеўшы аднавіць у памяці час, ад якога Рада Ўсебеларускага З'езду (Кангрэсу) пачала называцца Радаю БНР і даведацца пра поўны склад Рады, я зазірнуў у Энцыклапедыю і дайшоўшы да патрэбнага месца, чытаю (цытата даецца захоўваючы арыгінальны правапіс тэксту): "18.3.1918 Рада Усебел. з'езда ператворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, 6 сяброў ВБР (Віленскай Беларускай Рады) (В. Ю.Ластоўскі, І.І. і А.І. Луцкевічы і інш.) былі каптаваны ў склад Рады БНР, што ўзмацавала незалежніцкую плынь у ёй.

Прачытаўшы няпоўны пералік, я так і не зразумеў, што дае чытачу скарот "і інш.". Чаму былі выкінутыя з пераліку яшчэ трое сяброў БВР? Не хапіла месца ці што? Дык гэта ж энцыклапедыя, куды можна яшчэ падацца? Няўжо тыя сябры не нагэтулькі важнецкія, што гісторыя, на думку аўтара, без іх не пабяднее, а энцыклапедыя не панясе страты.

Аўтар артыкула, напісаўшы амаль 7 старонак кніжнага тэксту пра Беларускую Народную Рэспубліку, так, дарэчы, нідзе і не "адважыўся" поўнасцю пералічыць усіх сяброў тадышняе Рады. Мала таго, увесь доўгі артыкул так і стракаціцца скаротамі "і г. д." ды "і інш.", якія звычайнаму чытачу нічога не тлумачаць. Гэта што, ігнараванне зацікаўленасці чытача, злоўжыванне скаротамі, ці можа, няведанне тэмы?

Неабходнымі складовымі часткамі добрага тэксту заўсёды была лёгкасць чытання, якая дасягаецца пабудовай кароткіх сказаў і зразумелым выказваннем думак. Непатрэбны ўжытак скаротаў ніякай палёгкі не прыносіць, а, наадварот, ён ускладняе тэкст, робіць яго цяжкачытэльным і, самае галоўнае, пазбаўляе чытача патрэбнай для яго інфармацыі.

Спадзяёмся, што нашыя аўтары, як тут на Захадзе, гэтак і ў Беларусі, будуць больш ашчадна карыстацца скаротамі, як гэта, напрыклад, практыкуецца ў ангельскіх, нямецкіх і польскіх тэкстах.

*Зацемкі з левай кішэні.*

# "А мне ўсёроўна..."

У навагодні вечар да сцэны, узведзенай перад уваходам у гарадскі Дом культуры і на якой выступалі лепшыя эстрадныя калектывы, сабралася чалавек шэсцьсот – семсот, пераважна моладзі. Яркая святочная ілюмінацыя, адліжнае ціхае надвор'е таксама спрыялі прытоку людзей. Вядучыя на сцэне былі ў нацыянальных строях, але звярталіся да слухачоў, чамусьці, па-руску. Больш таго, з паўгадзіны, калі не болей, усе песні, нават прыпеўкі ў выкананні школьнікаў падлеткаў, гучалі толькі з расейскамоўнага рэпертуару. Стала маркотна і горка на душы – быццам ты трапіў кудысьці ў глыбінку Расеі. Вырашыў апытаць некалькі чалавек у натоўпе, як яны адносяцца да такога аднамоўя ў рэпертуары і паводзінах вядучых канцэрту. Віншаваў чалавека з Новым годам, называў сябе і задаваў пытанне: "Нармальная гэта з'ява ці не нармальна, калі ўжо паўгадзіну са сцэны не чуваць роднага слова? Маладая жанчына, што стаяла з дзіцячай каляскай, дзе драмала няўмалятка, пацiснула плечыкамі, усміхнулася, адказала неакрэслена:

-Ничего не могу вам ответить, это надо подумать.

Мужчына сярэдніх гадоў з хмурым тварам:

- А мне всеравно, какая разница?

- Малады хлапец, што стаяў неяк асобна ад гуртаў моладзі. Крышку парадаваў:

- Я, знаете, русский по национальности, но считаю, что это ненормально, нужно уважать любить свой язык.

Дзве маладыя, ружавашчокія дзяўчыны, нарэшце, уцешылі сэрца, хоць і адказвалі на маё пытанне па-руску:

- Там, где живешь, должен уважать и песни своего народа, и его язык. Удивлены одноязычием, но что мы можем исправить? – сказала адна. Другая дадала:

- Полностью согласна с подругой. У нас столько хороших песень и народных, и эстрадных.

Болей не хацелася непакоіць слухачоў. Хвілін праз пяць-дзесяць, нарэшце, вядучыя праграмы ўспомнілі, што пакуль Слуцк яшчэ не ўваходзіць разам з усёй краінай у "северо-западный край" Расейскай імперыі і "выдалі" некалькі нядрэнных беларускіх песень. А затым зноў панеслася расейскамоўнае эстраднае шоў да паўночы.

Ідучы дамоў, я азірнуўся навокал. Над вуліцай Леніна, насупраць Дома культуры, матляўся белы транспарант з напісанымі па-беларуску словамі навагодняга віншавання. Яшчэ два такія палотны перакінуты былі ў іншых месцах вуліцы. Затое аналагічныя віншаванні над уваходам у сем буйных магазінаў і ўнівермагаў у цэнтры горада былі распісаны толькі на рускай мове. Вось бы і прымяніць тут закон Рэспублікі Беларусь ад 24 лістапада 1999 года аб адміністратыўнай адказнасці, у прыватнасці, дапоўнены артыкулам 172/2 "Парушэнне заканадаўства аб мовах". А ён, дарэчы, прадугледжвае за "стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні нацыянальнай мовай" накладанне штрафу ад пяці да дзесяці мінімальных зарплат. А хіба кіраўнікі гандлёвых прадпрыемстваў сваім навязлівым "рюскім" аднамоўем у святочнай рэкламе не ствараюць такія самыя абмежаванні? Ёсць над чым падумаць і ўладнай "вертыкалі", і сябрам Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

*Мікола Кутнявецкі,*
*г. Слуцк.*

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Прыёмыш і прымук, прыймак.*** Тлумачальныя слоўнікі змяшчаюць слова ***прыёмыш*** без ілюстрацыі яго выкарыстання ў беларускіх тэкстах, перанёсшы гэты слоўнікавы артыкул з расейскамоўных тлумачальных слоўнікаў: 1) Прыёмыш, -а, м.. (Разм.) Прыёмны сын або прыёмная дачка. Узяць прыёмыша (ТСБЛМ. Мн.,1996.С.511). 2) Приемыш,-а, м. (разг.) Приемный сын или приемная дочь. Воспитать приемыша ( СРЯ. М., 1982. С523 ).

Штучнасць слова ***прыёмыш*** у тым, што яно парушае словаўтваральную сістэму беларускай мовы. Нашай мове неўласцівы суфікс ***–ыш***. Расейскамоўным утварэнням на ***–ыш*** адпавядаюць белар. з іншымі фармантамі: ***-ак, -нік-,-к-і,-ец,-ун: заморак (рас. заморыш), зародак (зародыш), кормнік (выкармыш), абіркі (аборыш), сляпун (слепыш) малеча (малыш)*** ды інш. Рас. ***приёмный*** звычайна, натуральна адпавядае белар. ***прыймовы, прыймальны*** (РБС – 53.С.507), або ***прыйманы*** (утварэнне ад ***прыймо – прием***, БРС – 26. С. 254). Прымаючы ўсё гэта пад увагу, В. Ластоўскі так перакладае гэтае расейскае слова: "Приёмыш – прыймак, прымук" (ПРК(Б)С. С.559). Натуральным тут можа быць ***прынятка*** - утварэнне ад ***прыняты (прынятае на выхаванне дзіця)***.

Як бачым, у беларускай мове ёсць свае адмысловыя словы (на месцы гутарковага рас. ***приёмыш***) > ***прынятка, прыймак, прымук***. На маю думку, найбольш прыдатнае слова ***прынятка*** ***'прынятае на выхаванне дзіця"***.

***Прашэнне і хадайніцтва, заява.*** Слова ***прашэнне*** – утварэнне ад ***прасіць (прашу): прашэнне***. Яно выкарыстоўваецца класікамі беларускай літаратуры як афіцыйная назва дакумента пра хадатайніцтва аб чым-небудзь. Напрыклад: "Назаўтра напісаў Лабановіч прашэнне аб перамяшчэнні і стаў збірацца ў дарогу" (Якуб Колас. На ростанях). Падаюць гэтае слова і нашыя тлумачальныя слоўнікі: "Прашэнне, н. Пісьмовае хадайніцтва аб чым-н. па афіцыйна ўстаноўленай форме. Падаць прашэнне (ТСБМ. Т.4. Мн., 1980. С394). Аднак тлумачальныя слоўнікі чамусьці адгароджваюць гэтае слова стылёвай паметай "устарэлае", хоць у сучаснай маўленчай практыцы яно выкарыстоўваецца ў нацыянальным друку як слова актыўнай лексікі (замест афіцыйна-савецкіх ***хадатайніцтва*** (рас. ***ходатайство***), ***заява*** ( < ***заявление***). Новы "Тлумачальны слоўнік" "сфатаграфаваў" гэты артыкул з выдання: С.И. Ожегов. Словарь русского языка (М.,1982.с.558): "Прошение, -я, ср. (уст.). Письменное ходатайство о чем-н. Подать прошение". І ў ТСБЛМ (с.506): "Прашэнне, -я, н. (уст.). Пісьмовае хадайніцтва аб чым-н.// Падаць прашэнне". Падганяецца беларускае слова пад расейскія (калі там застарэлае, значыць, такім яно ёсць і ў беларускай мове?).

***Найпрасцейшыя (заалаг.) - а не прасцейшыя.*** У чацвёртым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн.,1980. С.373) чытаем: "Прасцейшы, -ая, -ае. 1. Выш.ст. прым. просты... 2. У знач. наз. прасцейшыя, -ых. Тып аднаклетачных жывёлін". Гэты артыкул перапісаны з кнігі "Словарь русского языка в четырёх томах" (Изд. 2-е. М.,1984. С.525): "Простейший, -ая, -ае. 1. Превосх. Ст. к прил. простой. 2. В знач. сущ. Простейшие, -их. Тип одноклеточных животных". Але калі ў расейскай мове тут усё нармаванае, усё зразумелае, то ў беларускай мове другое значэнне не стасуецца з першым. Тып аднаклеткавых жывёлінаў – гэта тып найпрасцейшых, першасных жывёлінаў. Рас. ***простейшие*** – калька грэц. ***Protozoa***, дзе ***protos – першасны + Zool – жывёла***, а таму тут заалагічны тэрмін дакладна перадае існасць паняцця ***'першасны'***. У беларускай мове ***прасцейшыя*** - гэта ***'больш простыя'*** (за іншыя), але не сама простыя, не першасныя паводле сваёй прыроды. Таму пабеларуску тут нармалёва мусіць быць ***найпрасцейшыя*** або ***першасныя***. Менавіта ў тэрміналагічных даведніках і бачым такую адпаведнасць: ***простейший – найпрасцейшы*** (Т. Сухая. Р. Еўдакіменка, В. Траццякевіч, Н. Гудзень. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. – Менск: Навука і тэхніка, 1993. С.65). Аналагічныя формы з прыстаўкаю ***най-***, як адпаведнікі расейскіх беспрэфіксавых з суфіксамі ***–ш, ейш-/-айш-*** бачым і ў "Анатомическом словаре" 1998 года (Мн.: Дызайн ПРО. СС.48,53,100,188): ***высший – найвышэйшы, длиннейший – найдаўжэйшы, низший – найніжэйшы, широчайший – найшырэйшы.*** Такую выснову пацвярджаюць і перакладныя БРС: "Найсвятлейшы (о титуле) светлейший: найсвятлейшы князь – светлейший князь; ( в знач. сущ. дорев.) светлейший. Найсвяцейшы ( в титулах) святейший" ("Беларускі слоўнік". Пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы. Мн., 1988.С.732).

Нажаль, "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не ўлічыў практыку тэрміналагічных слоўнікаў, нацыянальнага друку суверэннай Беларусі, у ім бачым усё тое ж механічнае перапісванне з расейскіх слоўнікаў: "Прасцейшыя (спец.). Тып аднаклетачных жывёлін... (с.502). А нармаваным тэрмінам тут мусіць быць ***найпрасцейшыя***, або ***першасныя аднаклеткавыя***.

***Судовасць, падсуднасць, суджанасць – а не судзімасць. Судзімасць*** - утварэнне ад ***судзімы (судзім-асць)***. Беларускай мове вытворныя з суфіксам ***–ім-*** неўласцівыя. Параўн. ***падсудны*** в знач. сущ. ***Подсудимый*** (БРС – 89. С.62). даведнікі 20-х гадоў яго не фіксавалі. Тлумачальныя слоўнікі падаюць і гэтае слова з той дэфініцыяй, што і ў расейскіх даведніках: "Судзімасць, -і, ж. Судовы прыгавор за ўчыненае злачынства, а таксама прававы вынік асуджэння". Але раз гэта "судовы прыгавор", то мусіць быць ***судовасць***, а не ***судзімасць***. Дарэчы, самога слова ***судзімы*** тлумачальныя слоўнікі не падаюць, што таксама сведчыць пра штучнасць нематываванага назоўніка ***судзімасць***. Рас. ***судимый*** адпавядае белар. ***суджаны*** – *'той, каго судзілі'* (БРС – 89. С.523). Таму тут мажлівае ***суджанасць*** (а не ***судзімасць)***.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# З Днём Волі, сябры ТБМ

**Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны віншуе сяброў ТБМ і ўсіх грамадзян Беларусі, прыхільных да ідэй незалежнасці і беларускай нацыянальнай самабытнасці, з нашым найвялікшым святам Днём Волі 25 сакавіка. Гэты дзень ёсць пачатак нашага апошняга адраджэння. Гэты дзень ёсць пачатак адліку новай нацыянальнай Беларусі. Гэты дзень ёсць працяг нашай змагарнай гісторыі і пачатак нашай змагарнай рэчаіснасці. Мы ўсе родам з 25-га сакавіка. Нас усіх вядуць сцягі 25-га сакавіка. Нас абавязваюць да дзейнасці ідэі 25-га сакавіка. Ні адзін з тых, хто пранікся веліччу 25-га сакавіка не сыдзе са шляху незалежнасці, не выйдзе з шыхту нацыі. Гэта нашае свята, гэта нашая мэта. Наша задача ажыццявіць ідэі 25-га сакавіка ў нашым народзе і нашай краіне.**

*Сакратарыят ТБМ.*





# Дзень Волі з беларускай мовай




**Прыходзь!**

**Будзь разам з намі!**

Большасць беларусаў на вялікі жаль размаўляе не на сваёй роднай мове. Таксама многія з нас, размаўляючы па-беларуску са сваімі, на вуліцы пераходзяць на расейскую мову. На мой погляд гэтае ненармальнае становішча ўзнікае і ад таго, што калі пачынаеш размаўляць па-беларуску ў рускамоўным асяроддзі, узнікае комплекс белай вароны. З досведу ведаю,калі побач гучыць беларуская мова, то перайсці на яе лягчэй прапарцыйна большасці.

Прапаную 25 сакавіка "Дзень Волі" адзначыць і тым, што ў гэты дзень праявіць волю і паўсюль размаўляць толькі па-беларуску.

Калі мы гэта зробім, то ўпершыню на нашым слыху ў беларускіх месцах і мястэчках будзе нарэшце гучаць нашая мова. Гэта таксама павінна стаць адным з неабходных штуршкоў да вяртання беларусаў да сваёй мовы.

*Алесь Гурыновіч.*

# "Belarus über alles"

Спраўдзілася старажытная беларуская прыкмета, калі на справу ідзеш у дождж, то яна паспяхова здзейсніцца. Надвор'е 15 сакавіка амаль цэлы дзень было мярзотным, а Марш Свабоды II па масавасці нават пераўзышоў свайго папярэдніка.

Паводле розных ацэнак у акцыі прынялі ўдзел ад трыццаці да сарака тысяч беларусаў. Сцвярджэнне "чэсных" журналістаў з БТ пра паўтары тысячы мітынгоўшчыкаў смехавартыя нават на фоне паказаней імі "карцінкі", як і тое, які імі быў зроблены "чэсны" рэпартаж.

На месца прыехаў рафік, з якога разам з БТ-шнікамі "выплыла" пару дзябёлых кабецін з памятымі "фэйсамі" ў мокрых шапках. Яны жаліліся, што не прайсці ім бедным, не праехаць, і хлеба ім ад гэтага маршу болей не будзе. Пасля чаго "кумпанія" зноў загрузілася ў мікрааўтобус і паехала рабіць "чэсны" рэпартаж.

У Маршы Свабоды II адбыліся цікавыя навацыі. Напрыклад, моладзь выгуквала: "Беларусам --Беларусь, Лукашэнку -- уся Русь!" і г. д.

Удзельнікам маршу ў спецыяльна зробленай касе чалавек падобны на начальніка Беларусі выдаваў новыя стодоларавыя купюры з паметкай: "Удзельніку Марша Свабоды II". Такой унушальнай калоны, што расцягнулася больш чым на адлегласць аднаго прыпынку, Менск не бачыў даўно.

На пляцы ДС "Кульман" адбыўся невялікі мітынг, дзе выступілі па аднаму прадстаўніку ад партый, пасля чаго адбыўся рок канцэрт. Перад прысутнымі выступілі гурты NRM і рок-каралі 98-га "Нейрадзюпелі" са сваім суперхітом "Belarus über alles", які абыякавым не пакінуў нікога.

*Алесь Гурыновіч.*

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220048, г. Мінск, Калектарная, 10. Тэл. 220-97-55 факс 220-86-94

МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220048, г. Минск, Коллекторная, 10. Тел. 220-97-55 факс 220-86-94

09.02.2000. № 06-12/

Упраўленні юстыцыі аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкама

**У сувязі з запытамі, што паступаюць і дзеля пазбягання напружанай грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэгіёнах і ў Рэспубліцы ў цэлым, а таксама зыходзячы з таго, што юрыдычны адрас – гэта месцазнаходжанне кіраўнічага органа, Міністэрства юстыцыі лічыць неабходным паведаміць наступнае.**

**Пры прыняцці рашэння пра пастаноўку на ўлік (пастаноўку на ўлік у форме рэгістрацыі) арганізацыйных структур палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, першасныя арганізацыі колькасцю да 15 сяброў могуць быць пастаўлены на ўлік па месцы жыхарства аднаго з іх (прыватны дом, ці кватэра).**

**Для раённых, гарадскіх і абласных арганізацый можна выкарыстоўваць прыватны дом аднаго з сяброў.**

**У тых выпадках, калі адна з арганізацыйных структур партыі ці грамадскага аб'яднання скарыстоўвае пад офіс (месцазнаходжанне кіраўнічага органа) адміністрацыйны будынак ці памяшканне ў ім, то гэты офіс для сябе могуць скарыстоўваць (з агульнай згоды) і іншыя арганізацыйныя структуры гэтай партыі, што дзейнічаюць на тэрыторыі гэтага горада, нягледзячы на тое, што яны створаны ў розных яго раёнах.**

**Міністр Г.Н.Варанцоў.**

# Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку рыхтуе да выпуску трохтомнік "Бібліяграфія друку дыяспары"

Менск, 21 лютага. Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНІМ, Belarusian institute of arts and sciences) у Нью-Ёрку выдае трохтомнік "Бібліяграфія друку дыяспары". Як стала вядома БелаПАН, аўтарамі новага выдання, якое зараз знайходзіцца ў друку, з'яўляюцца вядомыя дзеячы беларускай дыяспары, муж і жонка Вітаўт і Зора Кіпелі.

У зборы ўлічаны толькі друкаваныя выданні, што былі выпушчаны на працягу XIX-XX стагоддзяў прадстаўнікамі так званай "далёкай" нацыянальнай дыяспары, якія жылі на захад ад Варшавы. Адзінае выключэнне зроблена для кнігі беларускай скіраванасці, што была выдадзена ўва Ўладзівастоку (Расея). Першы том збору ўтрымлівае выкладзеныя ў алфавітным парадку назвы каля 450 перыядычных выданняў, а два наступныя – размешчаныя ў храналагічнай паслядоўнасці назвы каля 5 тысяч манаграфій – кніг, брашур, пракламацый, праграм, статутаў і г.д.

Усю гэтую літаратуру муж і жонка Кіпелі збіралі ў ЗША, Канадзе і Еўропе каля 20 гадоў. пры гэтым, Зора займалася пошукам перыёдыкі, а яе муж – манаграфічнага матэрыялу. Зараз гэтая велізарная калекцыя перададзена Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы для выкарыстання шырокай грамадскасцю. З часам гэтай самай вялікай калекцыяй беларускага эміграцкага друку змогуць скарыстацца і чытачы Беларусі. Доктар Вітаўт Кіпель – старшыня БІНІМ, намеснік старшыні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Аўтар працаў па гісторыі і беларускай эміграцыі, рыхтаваў матэрыялы пра Беларусь для энцыклапедычных даведнікаў, быў сябрам калегіі 47-томнага выдання "Амерыканскія этнічныя групы. Еўрапейская спадчына". Разам з Зорай Кіпель склаў бібліяграфію "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе", хрэстаматыю і бібліяграфію "Беларуская дзяржаўнасць".

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## Ліда. Сабрана 3 600 подпісаў за БНУ

**За апошні тыдзень у Лідзе сабрана яшчэ 543 подпісы за Беларускі нацыянальны універсітэт, з іх 378 подпісаў ізноў сабрала педнавучальня. Усяго ад пачатку акцыі ў Лідзе сабрана 3 605 подпісаў. Збор подпісаў ідзе і ў іншых гарадах і вёсках і ідзе такімі тэмпамі, што Сакратарыят не паспявае лічыць. Таму мы не можам даць поўнай інфармацыі за ўсю краіну.**

**18 сакавіка пры зборы подпісаў за БНУ ў Лідзе міліцыя затрымала Леаніда Грышкевіча, аднак крыміналу ў яго дзеяннях не знайшла. Пасля гадзіннай гутаркі спадар Грышкевіч быў адпушчаны без складання пратаколу.**

# Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку падараваў звыш 50 кніг бібліятэцы кніжнага клуба Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Менск, 21 лютага. Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНІМ, Belarusian institute of arts and sciences) падараваў звыш 50 кніг бібліятэцы кніжнага клуба Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ).

Як паведаміў БелаПАН старшыня ТБМ Алег Трусаў, у пасылцы, што прыйшла ў сталічную штаб-кватэру грамадскага аб'яднання ад дырэктара БІНІМ доктара Вітаўта Кіпеля, сабрана літаратура па гісторыі беларускай эміграцыі, нацыянальнай мове і культуры, у тым ліку унікальнае выданне – нядаўна выпушчаны інстытутам двухтомнік паводле матэрыялаў архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі. Як вядома гэта не першы падобны дарунак БІНІМ айчынным бібліятэкам – выданні інстытута і дублікаты кніг, што знайходзяцца ў яго фондах, раней былі падараваны, у тым ліку, Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і Нацыянальнаму навукова-асветніцкаму цэнтру імя Францішка Скарыны.

Старшыня ТБМ прапануе ўсім, хто жадае пазнаёміцца з новымі паступленнямі, звяртацца ў кніжны клуб ТБМ па панядзелках і чацвяргах з 15 да 17 гадзін, а ў нядзелю з 14.30 да 17.30 па адрасу: Менск, Румянцава,13.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## *Выбарчая канферэнцыя ў ТБК*

У Таварыстве Беларускай Культуры Вільні адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя.

З дакладам аб зробленай працы за два гады выступіў старшыня Хведар Нюнька. 4 лютага споўнілася 11 гадоў ТБК – гэта немалы перыяд у дзейнасці. За апошнія 2 гады галоўнае – праведзены II з'езд Беларусаў Балтыі, выданне кніг, 10-годдзе ТБК, кожны месяц збіраецца рада ТБК, кожны месяц праходзіць мерапрыемства, прысвечанае выдатным беларускім дзеячам пачатку XX ст., сустрэчы з пісьменнікамі. ТБК – арганізацыя культурная, але з часу ліквідацыі сімволікі, якой 700 гадоў, сцяга бел-чырвона-белага, гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", ліквідуецца наша мова, вядома, свядомыя беларусы не могуць заставацца ў баку. Узнікае пытанне: "Ці можна аб гэтым спакойна гаварыць, і ці можна не гаварыць?"

ТБК не падтрымоўвае сувязяў з афіцыйнымі ўладамі Беларусі, з амбасадай Беларусі ў Літве. Супрацоўнічае з афіцыйнымі ўладамі Літвы, з дэпартаментам па справах нацыянальных меншасцяў у Літве.

ТБК – адзіная суполка, якая не ўваходзіць у Згуртаванне Беларусаў Літвы, выйшла з згуртавання і суполка Тракайскага раёна, якая не згодна з кірункам ЗБЛ на цеснае супрацоўніцтва з уладамі Беларусі. У раду ТБК выбраны малады аспірант Валера Місюк і Вольга Саковіч – дачка вядомага беларускага дзеяча Юліяна Саковіча. Абазначаны кірункі працы на бліжэйшы час.

На канферэнцыі было адзначана, што 17 ліпеня ў Вільні адбудзецца пікет, а 22 ліпеня 1999 г. у ТБК звярнуліся С.Шарэцкі і Ст.Шушкевіч аб дапамозе, якая і была аказана. Старшынёй абраны Хведар Нюнька.

*Леакадзія Мілаш.*

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Міцкевіч У. В. (Менск) на падпіску "НС" | - 10 000 руб. |
| 2. Ляўчук Міхаіл Пятровіч (Менск) | - 6 000 руб. |
| 3. Тулуць С. (Гомель) | - 1 000 руб. |
| 4. Кручок Сымон і Алена (Менск) | - 3 000 руб. |
| 5. Брыль Янка (Менск) | - 1 000 руб. |
| 6. Мішчук Георг (Менск) | - 3 000 руб. |
| 7. Петруковіч Васіль (Менск) | - 900 руб. |
| 8. Кучанкоў Пётр (Горадня) | - 500 руб. |
| 9. Бойчанка Д. П. (Менск) | - 1 000 руб. |
| 10.Казлоўская І. І. (Менск) | - 300 руб. |

**Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку ўдзельнікам Марша Свабоды II за дапамогу, аказаную ТБМ. Падчас маршу на дапамогу ТБМ і на выданне газеты "Наша слова" было сабрана 41 564 новыя рублі.**

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сёння ТБМ праводзіць адно масавае мерапрыемства за другім. Усе яны патрабуюць вялікіх выдаткаў. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11,-213-43-52.

## У Беларускім відэаклубе

**на Румянцава, 13**

**25 сакавіка ў 18.00 – "Адважнае сэрца"**

**Тэл. 213-43-52**

Алесь Лозка,
прэзідэнт Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы"

# Ці ёсць у Беларусі беларускія школы?

Даклад на навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы" 26 лютага 2000 года

"Ёсць, - адказвае Міністэрства адукацыі. – 2847 агульнаадукацыйных школ. І гэта складае 61,7% ад агульнай колькасці".

" Але..." – пярэчым мы.

1.Гэта, у асноўным, малакамплектныя і маламалікія вясковыя школкі, у якіх навучаецца ўсяго 19,6% дзяцей.

2. Калі сюды нават дадаць і дзяцей, якія вучацца ў школах з дзвюма мовамі навучання, то атрымліваецца – 463371, а гэта 30% ад агульнай колькасці. У параўнанні з мінулым годам паменшылася на 3,7%. І такая тэндэнцыя працягваецца 5 гадоў.

3.Акрамя таго, сам нармаваны змест школьнай адукацыі Рэспублікі Беларусь выклікае сур'ёзнае сумненне ў адпаведнасці сусветным нормам, якія прад'яўляюцца да нацыянальных незалежных адукацыйных сістэмаў.

4.Нават гэтае існуючае бязладдзе (не паварочваецца язык назваць парадкам) не кантралюецца адпаведнымі органамі. Маецца на ўвазе, што ў школах з беларускай мовай навучання дазваляецца (інакш не скажаш) у парушэнне "Адзінага арфаграфічнага рэжыму..." выкладаць любыя прадметы на чужой мове, нават тых, якія шаноўны міністр В.Стражаў у многіх выступленнях называе беларускамоўнымі ў рускай установе – гісторыя Беларусі, геаграфія Беларусі, працоўнае навучанне, выяўленчае мастацтва, музыка, сусветная мастацкая культура (Звязда. 1999. 27 ліст.). Як жа быць беларускамоўным школам, калі для іх спецыялістаў названых і іншых прадметаў рыхтуюць на рускай мове ці пераважна на ёй? Няма ж у Беларусі аніводнай беларускай вышэйшай навучальнай установы! А ці можа быць школа?

Згодна вучэбнага плана У-ІХ класаў агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання на родную мову на базавым узроўні адводзіцца ўсяго 16 гадзін на тыдзень, амаль столькі на расейскую (13), у Х-ХІ класах зусім усё зроўнена: па 2 гадзіны на дзве мовы, па 6 гадзін на дзве літаратуры (Зборнік нарматыўных дакументаў МА РБ. 1999. № 7). А як жа гэта робіцца ў людзей?

У нашых бліжэйшых суседзяў, украінцаў, у адпаведнай школе таксама адведзена ў сярэднім 16 гадзін на украінскую мову ў У – ІХ класах, але затое аніводнай абавязковай гадзіны расейскай мовы ні ў адным класе. (Я карыстаюся "Інформаційним збірником Міністерства освіти України". 1997. №8. Не думаю, што нешта істотна ў іх змянілася з таго года). Па выбары бацькоў гэтую мову можна вывучаць факультатыўна. Але, як паказвае жыццё, там перавага аддаецца больш перспектыўным "іншаземным" мовам, а не тым, якія можа эразумець і без спецыяльнага вывучэння ўсходні славянін. Акрамя таго, у дзяржаўным кампаненце прысутнічаюць такія навучальныя прадметы, якіх у нашай "супер дэмакратычнай" дзяржаве ці зусім няма ці забараняецца: замежная літаратура (5-11 кл.), правазнаўства, родны край (па-нашаму – беларусазнаўства). Тут мы не бяром пад увагу тое, што дысцыпліна ці частка яе можа вывучацца ў беларускіх установах у комплексе іншых прадметаў ці факультатыўна.

Трагедыя беларускай адукацыі ўзмацняецца тым, што хвароба яе не лечыцца, а замаўляецца ведзьмакамі – шарлатанамі. Не аднойчы на самым высокім узроўні ўбівалася вернучаму беларусу, што з роднай мовай "намецілася стабілізацыя", "назіраецца рост", "Сітуацыя заходжваецца". Ды чамусьці гэтая "сітуацыя" не хоча слухацца. І нават у афіцыйных статыстычных міністэрскіх даведніках "выпіраецца" і "крычыць", якую не возьмеш графу. Вось некаторыя лічбы дынамікі змяненняў.



Працэнт вучняў, прынятых у І (падрыхтоўчы) клас беларускамоўнага навучання па Менску, пачынаючы з 1994/95 навуч.года:
**58; 19,5; 12,1; 7,3; 5,3; 4,3;**

ва ўсіх беларускамоўных класах сталіцы –
**21; 17,7; 15,4; 13,4; 11,2; 9,5.**

Упершыню вялікая разбуральная сіла напаткала вёску, што не назіралася ў так званыя застойныя гады. Вясковыя школы яшчэ з большым размахам пачалі пераводзіцца на расейскую мову навучання. Так, у самы трагічны год для нацыянальнай адукацыі (1995) было афіцыйна пераведзена 108 школ, у тым ліку ў вёсцы – 91; за апошнія тры гады – 59 (далей у дужках, у тым ліку ў вёсцы – 55), 34 (32), 27.

Аднак беларусы паступова прачынаюцца ад ачмурэлага сну. Нечаканкай для многіх аказаліся вынікі чарговага перапісу насельніцтва: 82% грамадзян назвалі беларускую мову – нацыянальнай, роднай. У дынаміцы змяненняў упершыню за 5 цяжкіх гадоў нарэшце намеціўся рост, які неабходна прызнаць яшчэ адной сенсацыяй.

Працэнт вучняў, прынятых у І (падрыхтоўчы) клас беларускамоўнага навучання па рэспубліцы, пачынаючы з 1994/95 навуч. года:
**75,3; 37,9; 32; 28,7; 18; 29,3.**

Гэта па нашых разліках. Як мы выявілі, у міністэрстве такім аналізам яшчэ не займаліся. Найбольшых поспехаў тут дасягнулі педагогі Менскай і Гарадзенскай абласцей. Так, напрыклад, у першыя класы (без уліку падрыхтоўчага) было адпаведна прынята 55,5% і 45,1%, у тым ліку ў сельскай мясцовасці – 86% і 90,6%. Лыжкай дзёгцю ў бочцы з мёдам аказалася тое, што ў Менскай вобласці на 7 беларускіх школ стала ўсё-такі менш і на столькі ж павялічылася расейскіх, у Гарадзенскай адпаведна паменшылася на 5 і павялічылася на 3 (майце на ўвазе, што маюцца яшчэ школы з дзвюма мовамі навучання). У іншых рэгіёнах сітуацыя горшая.

Калі гаварыць пра сенсацыі далей, то маецца яшчэ адна прыемная навіна: упершыню Міністэрства адукацыі канстатуе факт дзейнасці пяці школ у сталіцы на беларускай мове навучання. І як нам паведамілі адтуль, што ў наступным годзе яшчэ дабавіцца шэсць, дзе ва ўсіх класах будзе весціся навучанне на роднай мове.

Пагледзім ці будзе прынята абяцаная Дзяржаўная праграма па падтрымцы беларускамоўнага навучання і што яна дасць.

У дзейнасці ўстаноў адукацыі Беларусі ёсць несумненныя здабыткі. Пра гэта сведчаць хаця б неаднаразовыя факты прысуджэння прызавых месцаў на прэстыжных міжнародных конкурсах беларускім школьнікам. Аднак у сістэме іх падрыхтоўкі маюцца сур'ёзныя недахопы, якія звязаны, напрыклад, з адсутнасцю дыферэнцыяцыі навучання: разам з асобнымі пяцёрачнікамі тысячы слабейшых вучняў безнадзейна і безкарысна праслухоўваюць складаныя курсы (тэмы), якія ім ніколі ў жыцці не спатрэбяцца.

Маецца вялікі працэнт ахопу дзяцей дашкольнымі ўстановамі, інтэрнатамі абслугоўваннем дзяцей-сірот, спецустановамі – хворых. Але ў цывілізаваных еўрапейскіх краінах такіх устаноў сапраўды мала, бо дзяржавы ствараюць усялякія ўмовы для сямейнага выхавання, маральна-духоўнага ўзбагачэння грамадства. Як вядома, асабліва многа было адчынена дзіцячых інтэрнатаў і дамоў у нас у сумнавядомых 30-ых гадах, дзе перавыхоўвалася эліта нацыі, бо бралі ў Курапаты найбольш здольных і таленавітых бацькоў. А дзеці "ворагаў народа" зводзілі канцы з канцамі. Цяпер у гэтых установах на расейскай мове прыхільна выхоўваецца падрастаючае пакаленне, бацькі якіх па сваёй волі адмовіліся ад сваіх дзяцей, ці дзеці бандытаў, злодзеяў, п'яніц, наркаманаў. Складаных праблемаў у нас шмат.

Усё-такі нам цяжка пагадзіцца з тым, што ў Беларусі ёсць сапраўдныя беларускія школы, дзе пакуль сустрэнеш у ёй афармленне на чужой мове, у якой асобныя прадметы таксама выкладаюцца на расейскай, і г.д. Аднак праводзячы апошнім часам конкурс на лепшую беларускую вясковую школу, у якім удзельнічае паўсотні ўстаноў з усіх рэгіёнаў і бываючы на месцах у іх, мусім сказаць, што ў нашай Бацькаўшчыне ёсць моцная аснова для развіцця беларускай нацыянальнай школы, у якой выхоўваецца маладая змена, што адбудзе незалежную і заможную Беларусь.

## ВЫСНОВЫ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ "ЗАКОН АБ МОВАХ - ВЫНІКІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ"

**ВЫСНОВА ПЕРШАЯ**

Закон аб мовах у рэдакцыі 1990 года поўнасцю адпавядае задачам нацыянальна-культурнага адраджэння і дынамічнага развіцця беларускага народа. Ажыццяўленне Закона на практыцы сведчыла, што прадугледжаныя ў ім тэрміны увядзення беларускай мовы ў сферы грамадскага жыцця зусім рэальныя і забяспечвалі ёй нармальныя ўмовы для функцыявання, што не парушала нацыянальных інтарэсаў усіх этнічных меншасцяў. Закон аб мовах набліжаў Рэспубліку Беларусь да ўсіх краін, дзе ўжо не існавала праблем з вырашэннем моўнага развіцця тытульнага народа.

**ВЫСНОВА ДРУГАЯ**

Канферэнцыя канстатуе, што Закон аб мовах у Беларускай ССР, прыняты 26 студзеня 1990 года з улікам шырокага грамадскага абмеркавання поўнасцю адпавядаў палажэнням сацыялінгвістыкі ў плане канцэпцыі кампенсацыйнай моўнай палітыкі, якую рэкамендуецца праводзіць у сітуацыі шматмоўя для падтрымкі так званых мінарытарных моў у цывілізаваных краінах. Прынятыя змены і папраўкі фактычна выхаласцілі сутнасць гэтага Закона. Несумненна, што далейшае развіццё Беларусі прымусіць вярнуцца да зыходных палажэнняў Закона.

**ВЫСНОВА ТРЭЦЯЯ**

Пашырэнне грамадскіх функцый беларускай мовы прадугледжвае адначасовае ўдасканаленне яе структуры. Найбольш важнымі напрамкамі ў гэтым плане з'яўляюцца падрыхтоўка разнастайных навучальных дапаможнікаў, разбудова тэрміналогіі і выпрацоўка канвенцыйных і як мага больш стабільных нормаў літаратурнай мовы.

**ВЫСНОВА ЧАЦВЁРТАЯ**

Адукацыйная сістэма з'яўляецца найважнейшай сферай, у якой рэалізуецца моўная палітыка дзяржавы. Сённяшняя моўная сітуацыя патрабуе беспрэцэдэнтнай сістэмы нацыянальнай адукацыі, і першым звяном стварэння беларускіх ВНУ стане адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.

г. Менск
26 лютага 2000 года.



**Сябры рэдкалегіі "Нашага слова" Алесь Петрашкевіч і Генадзь Бураўкін на канферэнцыі**

# 25 сакавіка – Дзень Волі

25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, адроджанай у XX стагоддзі Беларускай дзяржавы. Ідэя незалежнай рэспублікі была выказана на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 г. Аднак бальшавіцкае кіраўніцтва ў Менску на чале з А. Мяснікобым загадала разагнаць з'езд. Незалежніцкія настроі сярод дзеячоў беларускага нацыянальнага руху толькі ўзмацніліся пасля разгону з'езду.

Адначасова ў Берасці ішлі мірныя перамовы паміж дэлегацыяй савецкай Расеі і дэлегацыямі Германіі і яе саюзнікаў у першай сусветнай вайне. Савецкая дэлегацыя сарвала мірныя перамовы, і 18 лютага 1918 г. нямецкія войскі пачалі наступ на ўсход. 19 лютага бальшавіцкае кіраўніцтва пакінула Менск і перабралася ў Смаленск. Дзеячы Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага З'езду і Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, якія выйшлі з падполля, абвясцілі сябе Часовай уладай на Беларусі да склікання Устаноўчага сойму і ўзялі ўладу ў Менску. 21 лютага 1918 г. Выканкам Рады прыняў Першую Устаўную грамату да народаў Беларусі і стварыў першы ўрад Беларусі – Народны сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам і перадаў яму выканаўчую ўладу ў краіне.

Нямецкія войскі, перад якімі не было перашкод, бо рэшткі расейскіх войск уцякалі ад іх без баёў, занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі. 3 сакавіка 1918 г. быў заключаны Берасцейкі мір паміж Расеяй і Германіяй з яе саюзнікамі. Пасля падпісання Берасцейскай мірнай дамовы незалежніцкія настроі ў Беларусі яшчэ больш узмацніліся. Паводле дагавору Расея адмаўлялася ад часткі тэрыторыі Беларусі па лініі Дзвінск – Свянцяны – Ліда – Пружаны – Берасце. Астатняя тэрыторыя Беларусі лічылася расейскай, але заставалася пад нямецкай акупацыяй да моманту выплаты Расеяй Германіі вялікай кантрыбуцыі. Такім чынам, тэрыторыя Беларусі станавілася закладам у дачыненнях паміж Расеяй і Германіяй. Нямецкія акупанты, заняўшы Менск, забралі грашовую касу Народнага Сакратарыяту, скінулі з яго будынка беларускі бела-чырвона-белы сцяг і забаранілі палітычную дзейнасць. Нягледзячы на гэта, Выканкам Рады Усебеларускага з'езду працягваў сваю дзейнасць.

9 сакавіка 1918 г. Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады выдаў Другую Устаўную грамату да народаў Беларусі, у якой акрэсліваўся дзяржаўны лад Беларусі, вызначаліся правы і свабоды яе грамадзян. Фармальна была абвешчана Беларускай Народная Рэспубліка, але нічога не гаварылася аб адносінах з савецкай Расеяй, якая лічыла Беларусь сваёй тэрыторыяй. Да склікання Устаноўчага Сойму заканадаўчая ўлада заставалася ў руках Рады Усебеларускага з'езду, а выканаўчая і адміністратыўная – у Народнага Сакратарыяту. 18 сакавіка 1918 г. Рада Усебеларускага з'езду была пераўтворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), як яе вышэйшы заканадаўчы орган.

Аднак у Другой Устаўной грамаце не вызначалася дакладна тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі і нічога не гаварылася аб дачыненнях Беларусі з іншымі дзяржавамі, і ў першую чаргу з Расеяй. У гэты ж час беларускія дзеячы з Віленскай Беларускай рады цалкам сталі на незалежніцкія пазіцыі. 18 сакавіка 1918 г. 6 сяброў Віленскай Беларускай рады (у тым ліку Антон і Іван Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі) былі каптаваныя ў склад Рады БНР, што ўзмацніла незалежніцкую групоўку ў складзе Рады. Незалежніцкія настроі таксама пашырыліся яшчэ і таму, што Германія адмовілася прызнаць Другую Устаўную грамату і Беларускую Народную Рэспубліку і разглядала тэрыторыю Беларусі (акрамя Гарадзеншчыны) расейскай тэрыторыяй, якую давядзецца вярнуць Расеі.

23 сакавіка 1918 г. дэлегацыя сяброў Рады БНР прыехала з Вільні ў Менск. Адразу ж Антон Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвясціць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Папярэдне гэтая прапанова была абмеркаваная на паседжанні фракцыі партыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады БСГ у Радзе БНР. Пасля абмеркавання і спрэчак фракцыя прыняла гэтую прапанову аднагалосна. 24 сакавіка а 8-й гадзіне вечара пачалося пленарнае паседжанне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. З дакладам "Палітычнае становішча Беларусі" выступіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч. Ён прапанаваў прыняць адпаведную Устаную Грамату з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Супраць незалежнасці, за аўтаномію Беларусі ў складзе Расеі выступілі прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, каптаваныя ў Раду яшчэ 20 лютага 1918 года – прадстаўнікі земстваў і гарадскіх дум, амаль усе рускія, а таксама прадстаўнікі яўрэйскіх сацыялістычных партый. Большасць, якую складалі сябры БСГ, аднадушка выступіла за абвяшчэнне незалежнасці. Пасля доўгіх і бурных спрэчак а 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года большасцю галасоў сяброў Рады БНР была прынята Трэцяя Устаўная грамата. Супраць прыняцця граматы (а значыць і незалежнасці Беларусі прагаласавалі прадстаўнікі земстваў і гарадскога самакіравання (з рускамоўнай інтэлігенцыі) і яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Пасля прыняцця Трэцяй Устаўнай граматы яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і расейскія эсэры ад галасавання ўстрымаліся.

Ад часу прыняцця Трэцяй Устаўной граматы Беларусь абвяшчалася незалежнай, вольнай ад якіх-небудзь дзяржаўных сувязяў і саюзаў краінай. У тэксце граматы гаварылася: "Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай". Берасцейская мірная дамова не прызнавалася Беларускай дзяржавай. У дзяржаўным акце 25 сакавіка былі зацверджаныя ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян Беларусі, якія абвяшчаліся яшчэ Другой устаўной граматай. Была вызначана і тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ўключала землі, "дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак суседніх губерніяў, заселеных беларусамі". Аб будучых дзяржаўных сувязях павінны былі вырашаць самі беларусы ў асобе Устаноўчага Сойму.

Такім чынам, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі самастойнай і незалежнай дзяржавай было юрыдычным актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа, страчаную ў канцы XУІІІ стагоддзя ў выніку захопу тэрыторыі Беларусі Расейскай імперыяй падчас трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Акт 25 сакавіка 1918 года быў лагічным наступствам дзейнасці Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г.. Гэты акт зрабіў цалкам легальнай далейшую дзейнасць Рады БНР і яе ўраду ў 1918 годзе і ў наступны перыяд.

З актам 25 сакавіка 1918 года вымушаныя былі лічыцца і нямецкія акупанты, якія афіцыйна не прызналі БНР, але не здолелі спыніць дзейнасць Рады і ўраду БНР у галіне адукацыі, культуры, сацыяльнай палітыкі і палітычнай дзейнасці ўвогуле. З актам 25 сакавіка лічыліся і іншыя дзяржавы, якія прызналі незалежнасць Беларусі, у тым ліку Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Украіна, Чэхаславакія.

Урэшце і бальшавіцкі ўрад у Маскве вымушаны быў лічыцца з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. У лістападзе 1918 г. у Маскве адбыліся перамовы прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча з прадстаўнікамі савецкага ўраду аб прызнанні Расеяй незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак перамовы былі спыненыя, і ўрад Леніна прыняў іншы варыянт: пасля адыходу нямецкіх войск заняць часткамі Чырвонай Арміі тэрыторыю Беларусі. 1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь. Такім чынам, утварэнне БНР вымусіла бальшавіцкі ўрад Расеі стварыць хоць і фармальную несамастойную савецкую рэспубліку, але ўсё ж як нацыянальную.

Дзень 25 сакавіка 1918 г. з'яўляецца святам беларускага народа, Днём Незалежнасці. У наш час акт 25 сакавіка застаецца сімвалам барацьбы беларусаў за сваю незалежнасць, за самастойную і суверэнную дзяржаву, супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі.

***Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар***

5 сакавіка 2000 г.

# БНР на Гарадзеншчыне

Каб больш-менш усвядоміць сітуацыю, што была ў тыя часы на Гарадзеншчыне, неабходна памятаць, што ў той час яна знаходзілася пад нямецкай акупацыяй і валодаць гэтым краем імкнулі не толькі бальшавікі, але яго лічылі сваім як палякі так і літоўцы. Не адмаўляліся займець паўднёвыя абшары Беларусі і ўкраінцы. Для ўсіх іх, наш край быў "вольным полем", што можна дзяліць, як толькі захочаш. Перамагаў той, хто валодаў большай збройнай сілай.

Вось пры такіх умовах і пры такім раскладзе інтарэсаў юрыдычна створаная Беларуская Народная Рэспубліка памкнула стаць незалежнай дзяржаваю.

Аб тым, што абвешчаная БНР не была фармальным стварэннем сярод іншага сведчаць яе поспехі ў галіне асветы і культуры, у тым ліку і на Гарадзеншчыне. Для гэтага склаўся важкі падмурак, бо з 1915 – 17 годы на акупаваных немцамі тэрыторыях было адчынена 89 беларускіх школ у тым ліку і настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы. Працавалі іншыя культурныя ўстановы. Пасля абвяшчэння незалежнасці паводле некаторых падлікаў працавала ад 150 да 350 беларускіх школ, у тым ліку гімназіі ў Наваградку і Горадні. Значны ўплыў на Гарадзеншчыну аказвала Вільня з яе значным грамадскім і культурным беларускім асяродкам. У той час на Беларусі ўзнікае Беларуская вучнёўская грамада, яе секцыі ўтвараюцца, як у Горадні, так і павятовых гарадах гэтага краю.

Напрыканцы 1918 года міжнародная сітуацыя склалася неспрыяльна для БНР. У Германіі Вільгельм II адракаецца ад пасаду. Расея дэнансуе Берасцейскую мірную дамову. Чырвоная Армія наступае. 28 лістапада 1918 года адбываецца апошняя ў гэтым годзе паседжанне рады БНР у Менску. 3 снежня сябры Рады і ўрад БНР пераезджаюць у Вільню. Дзейнасць польскай пятай калоны вымусіла кіраўніцтва БНР 27 снежня 1918 года пераехаць у Горадню. Фактычна гэты горад да верасня 1919 года стаў сталіцаю Беларускай Народнай Рэспублікі. 2 студзеня 1919 года сюды ж пераезджае і Міністэрства беларускіх спраў. Яно ўзнікла ў выніку перамоў паміж Віленскай Беларускай радай і Літоўскай Тарыбаю. Тады было падпісана пагадненне, згодна якога беларускім прадстаўнікам адводзілася 25% месцаў у Тарыбе (Сойме).

Паміж урадам БНР і Міністэрствам беларускіх спраў узнікае супрацьстаянне. Яно было прамым параджэннем саперніцтва між Варонкам і Алексюком. Калі першы арыентаваўся на Літву дык другі -- на Польшчу. Гэтыя дзеячы мелі сваю падтрымку і ў правінцыі. Міністэрства беларускіх спраў прыкладвала вялікія намаганні ў справе стварэння беларускіх узброеных сілаў. Дзеля гэтага ў міністэрстве заарганізавалі вайсковы сакратарыят. Арганізацыя беларускага войска праводзілася пераважна ў Горадні ад пачатку студзеня да канца красавіка 1919 года. Тут найперш быў заарганізаваны штаб – Беларуская Камендатура. Потым беларускі пяхотны полк.

Згодна пагадненню з літоўскаю Тарыбаю Міністэрства беларускіх спраў санкцыянавала прызначэнне літоўскіх урадавых камісараў у Беласток, Саколку, Белавежу, Бельск, Горадню, Дзятлава, Крынкі, Плянты, якія лічыліся беларускімі тэрыторыямі. Яшчэ міністру беларускіх спраў падпарадкоўваліся беларускія павятовыя камісары, сярод іх былі такія беларускія дзеячы, як Л. Дзекуць-Малей, М.Касцевіч (Макар Краўцоў), Крачэўскі ды іншыя. Пад агідаю ўрада БНР знаходзіліся беларускія сялянскія камітэты ў Ваўкавыску ды Горадні. Яшчэ яго падтрымлівала Віленская Беларуская рада ды некаторыя іншыя арганізацыі. У гэты перыяд у Горадні быў наладжаны выпуск пяці беларускіх газет. Урад БНР бачыць асноўны напрамак сваёй дзейнасці ў супраціве прэтэнзіям Польшчы на беларускія землі і супраць набору беларусаў у Войска Польскае.

23 красавіка 1919 года палякі адабралі ў бальшавікоў Вільню. 28 красавіка нямецкія войскі перадаюць палякам і Горадню. Міністэрства Беларускіх спраў, некаторыя афіцэры і жаўнеры беларускага войска паспелі вырвацца ў Коўна. З Горадні ў поўным складзе выйшлі кавалерыйскі эскадрон і 5-ая рота Беларускага пяхотнага палка. 1 чэрвеня 1919 года 1-ы Беларускі полк у Горадні быў раззброены палякамі.

У гэты час Міністэрства замежных спраў выходзіць на міжнародную арэну. Язэп Варонка праз урад Літвы перадае ноту пратэсту ўрадам ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі супроць перадачы Аўгустоўскага павету палякам. У ноце былі пералічаны беларускія паветы, захопленыя імі: Берасцейскі, Бельскі, Пружанскі, Кобрынскі, Беластоцкі, Слонімскі, Сакольскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Лідскі, Віленскі, Ашмянскі, Дзятлаўскі, Наваградскі.

Адначасова ў гарадзенскі перыяд дзейнасці БНР урад дамагаецца права на ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі. У пачатку 1919 года ў Парыж выязжаюць генерал Ц.Кандратовіч і былы дэпутат Дзяржаўнай думы Расеі Азнабішын. У маі гэтага ж года яны ўручылі старшыні канферэнцыі мемарыял урада БНР і атрымалі дазвол на прыезд беларускай дэлегацыі ў Парыж. Напачатку чэрвеня беларуская ўрадавая дэлегацыя прыбывая ў Парыж. Тут яна разам з прадстаўнікамі Літвы, Латвіі, Украіны, Эстоніі ды іншых дзяржаў, што ўтварыліся на тэрыторыі былой Расейскай імперыі, пратэставала супраць прызнання Антантаю юрысдыкцыі Калчака над гэтымі краінамі. Вынікі канферэнцыі для БНР былі несуцяшальнымі. Антанта прызнала Ўладу Калчака над Беларуссю, з аднаго боку ды яшчэ заахвоціла польскі ўрад да захопу беларускіх тэрыторый. Пасля захопу Вільні Юзаф Пілсудскі друкуе адозву да жыхароў гэтага краю, у якой абяцае, што народ сам будзе вырашаць свае ўнутраныя справы – нацыянальныя і рэлігійныя. 4 мая 1919 года Пілсудскі сустракаецца з намеснікам Старшыні Рады БНР Смолічам. У выніку шматлікіх кантактаў з польскімі ўладамі адбываецца З'езд беларускіх дэлегатаў Віленшчыны і Гарадзеншчыны. З'езд стрымана паставіўся да віленскай адозвы і настойваў на ідэі федэратыўнай беларуска-літоўскай дзяржавы.

28.7.1919 года Тарашкевіч і Алексюк былі з візітам у Пілсудскага, дзе прасілі каб апошні ўзяў рэальны ўдзел у будаўніцтве беларускай дзяржавы.

8 жніўня 1919 года польскія войскі ўваходзяць у Менск. Тут начальнік Польскай дзяржавы выдае новую адозву, у якой абяцае, што Польшча і Беларусь будуць ладзіць свае адносіны, як роўны з роўным, як вольны з вольным.

Напачатку верасня 1919 года беларускі ўрад вяртаецца з Горадні ў Менск.

***Язэп Палубятка.***

# ДУХОЎНАЯ СТАРОНКА

## *Цуд зямлі беларускай*

*Наша мова для нас святая,*
*Бо яна нам ад Бога даная...*
***Францішак Багушэвіч.***



*У кожнага народа ёсць святыні, якімі мацней зажыццё даражылі мудрыяпаршчуры і якія, нібыта нязгасныя зоры, асвятляюць шляхі ў жыцці іх нашчадкам.*
***Алена Ніжнік.***

На працягу месяца ў Дольнай Зале Чырвонага касцёла экспанавалася выстава дзіцячага малюнка, вершаў і апавяданняў на тэму "Маці Божая Будслаўская ў маім жыцці і жыцці Бацькаўшчыны". Выстава ўзрушальная, бо творчасць і фантазія дзяцей бязмежныя, тэхніка выканання работ – разнастайная, памкненні – высокія. У кожнай працы адчуваецца біццё дзіцячага сэрцайка, гарачая любоў да Пана Бога і Маці Божай, шчырая вера ў Вышэйшую Дабрыню і Справядлівасць.

***"Людзі моляцца,***
***Сэрцы поўняцца***
***Той малітвай,***
***Што ў небе ўздымаецца***
***Кожны ведае,***
***Словы гэтыя***
***Там з увагай заўжды сустракаюцца"***
***(Люляк Юля, 14 год)***

Перад удзельнікамі конкурсу стаяла вялікая духоўная задача. Аб тым , як яны з ёй справіліся, сведчаць запісы наведвальнікаў у кнізе водгукаў. Вось толькі некаторыя з іх: "Ніколі яшчэ мы не бачылі такіх прыгожых выяў Маці Божай", "На Беларусі жывуць добрыя, шчырыя, цудоўныя дзеці. А гэта наша будучыня", "Узрадавалі верай у Святыню зямлі беларускай, верай у яе цудоўную сілу". Запісаў многа, але зерне праўды, здаецца, у гэтых словах: "Светлае месца, светлыя думкі, светлыя вобразы".

***"Цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай... Ён свеціцца ў самай непраглядной цемры, хворым вяртае здароўе, зняверанымі знясіленым – надзею на лепшае жыццё. Каб убачыць гэты цуд сваімі вачыма і пакланіцца яму, у вёску Будслаў, што на Мядзельшчыне, зблізку і здалёк прыходзяць вернікі. Шануюць каталікі Маці Божую Будслаўскую як апякунку Беларусі і штогод 2 ліпеня урачыста адзначаюць Яе дзень. З году ў год ладзяцца паломніцтвы да гэтага святога месца, у іх прымае ўдзел шмат моладзі і дзяцей". (З работы Алены Ніжнік, 15 год).***

***"Нібы прамяніцца Абразік Цудоўны!***
***Але хараство Яго – ні камяні,***
***Ні золата, срэбра, ні кужаль шаўковы,***
***Ні цуд – аздабленне, што робяць майстры.***
***А добрыя вочы, ласкавая ўсмешка,***
***Пяшчотныя рукі, што туляць дзіця.***
***Ёсць у поглядзе гэтым і сумнае нешта,***
***І радасць за існасць зямнога жыцця".***
***(Патапава Таццяна).***

У сваіх творах дзеці ўздымаюць сацыяльныя праблемы нашага грамадства. У многіх лістах адчуваецца туга па шчаслівай сям'і, дзецям не стае пяшчоты, увагі, паразумення, клопату з боку бацькоў. Шмат падлеткаў апынуліся ў стане адзіноты і разгубленасці, яны адчуваюць сябе нікому не патрэбнымі "шэрымі верабейчыкамі".

***"Яны не ўсміхаюцца, яны і плакаць ужо не могуць, толькі яшчэ белай абалонкай плыве над імі апошняя надзея, што нехта кіне на іх сапраўдны чалавечы цёплы позірк, нехта заўважыць, што і яны таксама людзі. "Шэрыя верабейчыкі" не могуць крычаць, але крычыць боль у іх сэрцах і душах, крычыць ён і ў іх вачанятках. І пакуль яны не згубіліся на сцяжынках у невядомасць, трэба адкінуць шэрыя заслоны абыякавасці і чэрствасці і выратаваць не толькі целы, але і душы гэтых дзяцей, адкрыць ім шлях да Езуса Хрыстуса і Маці Божай, бо не адчуўшы цеплыні і ўвагі, не прыняўшы глыбокай хрысціянскай веры ў свае сэрцы, бачачы толькі зло і жорсткасць, наўрад ці змогуць такія дзеці любіць і шкадаваць, дарыць цяпло іншым.***

***- Матачка Божая! Я працягну да Цябе свае халодныя рукі, і Ты прытуліш мяне так, як прытуляеш Сваё Дзіцятка. Ты падымаеш мяне на сваю белую аблачынку, і мы разам дагонім тую белую аблачынку, на якой адляцела мая мамачка... "***
***(З апавядання Алены Таўлуй, 14 год "Белая аблачынка надзеі").***

Шчырыя словы сваіх малітваў дзеці адрасуюць Маці Божай Будслаўскай:

***"Будзь духоўным абаронцам дзяцей Беларусі, нясі чысціню і праведнасць дарослым людзям" (Таня, 10 год).***

***"Вазьмі пад апеку сваю дзетак, якія не ведаюць цябе". (Вольга, 14 год).***

"Цуд зямлі беларускай" – назоў аднаго з твораў, дасланых на конкурс. 14-гадовая мінчанка Таццяна Патапава ў жанры "быліны – развагі" (так вызначае яна сама) распавядае гісторыю, звязаную з абразам Маці Божай Будслаўскай. Падзеі разгортваюцца ў гады ваеннага ліхалецця. Геаграфічнае становішча Беларусі не раз вымушала яе станавіцца арэнай такіх падзеяў, таму аўтарка не ўдакладняе час. Простаму селяніну з "бусловай краіны" заўжды даводзілася нялёгка, бо ***"...З якой бы той вораг не выйшаў краіны, не вымавіць ён: "добры дзень, спадару!"*** Пакутлівы лёс сялянкі Марыі – галоўнай гераіні паэмы: спалена родная вёска, згарэла хата, а разам з ёй уся маёмасць, але самае страшнае: "Прапала дачушка! Што маці рабіць?" Як выцерпець гэткія выпрабаванні? Сваімі разважаннямі аўтарка сцвярджае, што надзея павінна заставацца і ў самых роспачных сітуацыях, не варта слухаць голас шатана, які заманвае чалавека ў пекла, нашэптваючы яму думкі аб развітанні з жыццём. Не слухай яго. Лепш прыслухайся Бога. З няшчасцем і горам ён шле табе знак. І ўспомніла словы, што маці казала:

***"Дачушка, як згіне надзея твая***
***І гора задушыць, ідзі да Будслава.***
***Засмучаных гэта ратуе зямля".***

І сапраўды, адбыўся цуд: гарачыя малітвы Марыі былі пачуты Маці Божай Будслаўскай – дачушка знайшлася! Аўтарка справядліва называе абраз Маці Божай Будслаўскай "Абразом Жыцця". Юная паэтка пераносіць нас у сучаснасць, разважае над пытаннямі, якія мы людзі. Ці лепшыя за сваіх продкаў, ці мацнейшыя духам і верай, ці багацейшыя розумам, ці здаравейшыя целам? Ці захавалі мы адвечныя бацькоўскія традыцыі? Ці памножылі матэрыяльныя даброты, дадзеныя нам, ці збераглі зямельку – маці для сваіх нашчадкаў? Ці жывём у суладдзі з сабой? І вось адказ:

***"Змарнелі мы духам, любоўю змарнелі,***
***Пакрыўдзілі, зганьбілі памяць людзей***
***Забылі бацькоў, што ад ліха цярпелі,***
***Накрыліся цемраю злосных начэй.***

***Будуем заводы, машыны, дарогі.***
***На станцыях чорныя трубы равуць.***
***Вада ў рацэ, нібы масла ў маторы,***
***У ёй нават і жабы ўжо не жывуць.***

***Зямлю мы за вугаль, за газ раздзіраем***
***І нафту праз трубы ўсё цягнем далей.***
***За золата, срэбра, алмазы ўміраем,***
***Жыцця не шкадуем, каб толькі "яшчэ".***

***Лясное багацце ўсё палім і палім,***
***Карысныя травы для вазы дзяром,***
***Цудоўнейшых птушак, жывёл забіваем,***
***А потым у Чырвоную кнігу бяром.***

***І ўсё гэта робіць народ – беларусы,***
***Закінуўшы ў вугал абразік з Хрыстом,***
***Сумленне схаваўшы пад чорным абрусам,***
***Забыўшыся людзям аддзячыць дабром."***

У апошніх радках сваёй паэмы Таццяна піша:

***"Я верай сваёй маладой, але моцнай***
***Хачу папрасіць аб Любові людзей:***
***Ідзіце да Бога, няхай Сваёй Моцай***
***Жыццё і сям'ю блаславіць Дабрадзей!"***

Большасць работ дасланых на конкурс, адносіцца да выяўленчага мастацтва. Малюнкі, выкананыя алоўкамі альбо алеем, як гэта і вызначалася ўмовамі конкурсу, удала спалучаліся з працамі, створанымі ў стылі народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: аплікацыі саломкай ці іншым матэрыялам, выцінанка, разьба па дрэве, лубок, вышыўка шклярусам альбо ніткамі.

Былі прадстаўлены два музычныя творы 14-гадовымі мінчанкамі Лаўскай Вольгай і Уланавай Ганнай. На жаль, ва ўмовах конкурсу не было такой намінацыі, але журы з задавальненнем адзначыла арыгінальнасць прац.

9 студзеня ў перапоўненай зале тэатра "Зніч", у Чырвоным касцёле, урачыста падводзяцца вынікі: усе ўдзельнікі ўзнагароджаны дыпломамі і падарункамі, вызначаны 36 пераможцаў, кандыдатаў для паездкі за мяжу. Кожны, хто атрымлівае дыплом з рук старшыні журы Дзягілева Леаніда Яўсеевіча, гаворыць колькі слоў, дзеліцца ўражаннямі, выказвае ўдзячнасць. Але вось слова бярэ пробашч касцёла Уладыслаў Завальнюк. Ён добра знаёмы з работамі, пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле праходзіў і сам конкурс, і афармленне выставы, іарганізацыя працы журы, і гэтая сустрэча. Уладыслаў Завальнюк, адзначаючы стараннасць, любоў і вялікую духоўную працу ўдзельнікаў конкурсу, паведамляе, што кожны з іх, дзякуючы апецы Маці Божай Будслаўскай, - пераможца і будзе ўзнагароджаны аздараўленчай паездкай за мяжу. Рэакцыя залы зразумелая... Сказаць па праўдзе, вялікую палёгку адчула журы, бо прац, вартых галоўнай узнагароды, было значна больш, чым дазвалялі ўмовы конкурсу. Так адбыўся яшчэ адзін цуд.

Застаецца дадаць, што ў конкурсе прымалі ўдзел дзеці і моладзь з усёй Беларусі.

Думаецца, што для многіх людзей, якія ўлетку пойдуць у Будслаў упершыню, дарога заззяе праменчыкам веры. Вера гэта ўмацуецца, зробіць нас мудрэйшымі, чысцейшымі душой, шчадрэйшымі справай, вартымі спадчыны сваіх продкаў. Няхай кожны знойдзе сваю дарогу да Бога, бо Бог ёсць святло жыцця. А дапаможа нам у гэтым Маці Божая Будслаўская. Яна чуе просьбы дзяцей і моладзі.

***"Маці Божая Будслаўская? Цудоўным светам асвяці мой родны край, сагрэй цяплом свайго шчырага сэрца мой народ, каб не ведаў ён больш пакут і гора.***

***Няхай шчаслівымі растуць дзеці, ярчэй свеціць сонца і над зямлёй маёй ляціць белы бусел... " (Ніжнік Алена).***

***Вольга Каляда,***
***сакратар жыры конкурсу.***

---

**Конкурс дзіцячага малюнка, прозы і вершаў "Маці Божая Будслаўская ў маім жыцці і жыцці Бацькаўшчыны" завяршыўся.**

3 студзеня 2000 года адбылося пасяджэнне журы, у склад якога ўвайшлі:

**Вальмен Аладаў**, прафесар Беларускай дзяржаўнай палітэхнічнай акадэміі;

**Нінэль Аладава**, дацэнт Беларускай акадэміі мастацва;

**Марыо Бэго**, прадстаўнік амбасады Італіі ў РБ;

**Пётр Гарнцарэк**, прадстаўнік амбасады Рэспублікі Польшча ў РБ;

**Рамуальда Залеская**, прадстаўніца Клуба каталіцкіх жанчын;

**Рышард Ясінскі**, прадстаўнік Грамадскага аб'яднання Саюза палякаў у РБ.

Узначальваў гэтае прадстаўнічае журы дацэнт Беларускай акадэміі мастацтва **Леанід Дзягілеў**.

Журы адзначае, што заклік "Клуба Каталіцкіх Жанчын" і Касцёла св. Сымона і св. Алены адгукнулася шмат моладзі з Беларусі і замежных краін. Гэта выбітна сведчыць, што культ Маці Божай Будслаўскай на Беларусі жыве і шырыцца, што маладыя сэрцы цягнуцца да Бога, хочуць жыць паводле хрысціянскіх законаў, тых, якія паважалі і ў якіх верылі нашы продкі. Конкурс яскрава паказаў, што спрадвечная хрысціянская Беларусь вяртаецца да Бога, што бацькі прыводзяць дзетак у касцёл, паказваючы ім адзіна верную дарогу ў жыцці.

На конкурс даслана **424** працы, з іх: малюнкаў – **330**, апавяданняў – **38**, вершаў – **56**.

Работ, вартых узнагарод, значна больш, чым гэта было абумоўлена Палажэннем аб конкурсе. Журы прапануе адзначыць усіх удзельнікаў конкурсу і жадае ім творчых здзяйсненняў.

Пасля разгляду дасланых малюнкаў, вершаў і прозы, ацаніўшы іх змест і форму выканання, журы аднагалосна вырашыла:

У намінацыі **"Выяўленчае мастацтва"**:

**Дыпломам І ступені ўзнагароджваецца:**
**Алейнічак Станіслаў**, пас. Гарадзея Нясвіжскага раёна Менскай вобласці

**Дыпломам ІІ ступені ўзнагараджваюцца:**
1. **Іваноўская Бажэна**, г. Клецк
2. **Кійко Наталля**, г. Менск
3. **Кутасевіч Анастасія**, г. Менск
4. **Налецкі Ілля і Налецкая Анастасія**, г.Менск
5. **Нядзелька Дзмітры**, г. Нясвіж
6. **Рудэнка Васіль**, г. Віцебск
7. **Трафімец Ульяна**, г. Менск

**Дыпломам ІІІ ступені ўзнагароджваюцца:**
1. **Абрамовіч Алеся**, г. Заслаўе
2. **Апанасевіч Аляксандр**, в.Дзягілі Маладзечненскага р-на
3. **Жылінскі Аляксей**, г. Менск
4. **Каравай Вольга**, г. Менск
5. **Карніенка Ганна**, г. Менск
6. **Мякота Вольга**, г. Фаніпаль Дзяржынскага р-на
7. **Паўлоўская Ганна**, г. Менск
8. **Стрэльчык Дзмітры**, г. Менск
9. **Тамашэвіч Артур**, г. Менск
10. **Тамашэвіч Максім**, г. Менск
11. **Тамашэвіч Павел**, г. Менск
12. **Таўлуй Алена**, г. Навагрудак
13. **Хаўратовіч Вікторыя і Хаўратовіч Кацярына**, г. Маладзечна

**Заахвочвальныя прызы прысуджаюцца:**
1. **Дзятко Вользе**, г. Менск
2. **Залескай Дар'і**, г. Менск
3. **Камінскай Алесі**, г. Менск

У намінацыі **"Паэзія"**:

**Дыпломам І ступені ўзнагароджваецца:**
1. **Патапава Таццяна**, г. Менск

**Дыпломам ІІ ступені ўзнагароджваецца:**
1. **Залеская Ганна**, г. Менск

**Дыпломам ІІІ ступені ўзнагароджваюцца:**
1. **Васільчык Наталля**, г. Менск
2. **Люляк Юлія**, г.п. Урэчча Любанскага раёна Менскай вобласці
3. **Патычкіна Ганна**, г. Менск
4. **Шастакоў Максім**, г. Гомель

У намінацыі **"Проза"**:

**Дыпломам І ступені ўзнагароджваецца:**
**Янушкевіч Яраслаў**, г. Ліда

**Дыпломам ІІ ступені ўзнагароджваецца:**
**Ніжнік Алена**, в. Людвінова Вілейскага раёна Менскай вобласці

**Дыпломам ІІІ ступені ўзнагароджваюцца:**
1. **Жэрка Яўген**, в. Крошын Баранавіцкага раёна Берасцейскай вобласці
2. **Пшэвлоцкая Караліна**, в. Стуканы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці

**Старшыня журы:**
Дацэнт Беларускай акадэміі мастацтва **Леанід Дзягілеў.**

**Сябры журы:**
Прафесар Беларускай дзяржаўнай палітэхнічнай акадэміі **Вальмен Аладаў;**
Дацэнт Беларускай акадэміі мастацтва **Нінэль Аладава;**
Прадстаўнік амбасады Італіі ў РБ **Марыо Бэго;**
Прадстаўнік амбасады Рэспублікі Польшча ў РБ **Пётр Гарнцарэк;**
Прадстаўнік клуба каталіцкіх жанчын **Рамуальда Залеская;**
Прадстаўнік Грамадскага аб'яднання Саюза палякаў у РБ **Рышард Ясінскі;**
Сакратар журы: **Вольга Каляда.**





# Знамянальная падзея

6 сакавіка горад Ліду наведаў вядомы навуковец і культурна-грамадскі дзеяч, археолаг і гісторык архітэктуры, аўтар шэрагу кніг, шматлікіх доследных манаграфій, папулярных публіцыстычных і энцыклапедычных артыкулаў, старшыня Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сп. Алег Трусаў. Разам са старшынём Таварыства на сустрэчу з лідзянамі завітаў таксама і кіраўнік справамі ТБМ сп. Сяргей Кручкоў.

Шаноўных гасцей з Менску віталі сябры гарадской і раённай Радаў ТБМ, старшыня Таварыства беларускай школы дырэктар Бердаўскай СШ сп. Анатоль Крупа, рэдактар газэты "Наша слова", часопіса "Лідскі летапісец", выдавец часопіса "Ад Лідскіх муроў" сп. Станіслаў Суднік, кіраўнік інфармацыйнага цэнтру "Генерацыя" сп. Артур Ганько і інш.

Помнікі беларускага дойлідства

СТАРАДАЎНІХ МУРОЎ АДРАДЖЭННЕ

Трэба адзначыць, што падзея гэтая – утрая знамянальная і для нашага шаноўнага госця, і для лідзянаў, і для рэспубліканскага выдавецтва "Полымя", якое дзесяць гадоў таму распачало выпуск серыі кніг "Помнікі беларускага дойлідства". 6 сакавіка 1990 года выйшла першая ў гэтай серыі выключна каштоўнага і цікавага зместу кніга з надзвычай прыгожаю і сімвалічнаю назвай "Старадаўніх муроў адраджэнне". Аўтар гэтай працы пра мінулае і сучаснасць Лідскага замка, ініцыятар і пачынальнік названага выдавецкага праекту – адзін з нашых шаноўных гасцей спадар Алег Трусаў. Так, менавіта гэтым выдатным навукоўцам дзесяць год таму ў справу, вобразна кажучы, адраджэння ў сучаснасці і людской свядомасці памяці пра нашу гістарычную мінуўшчыну быў закладзены, запачаткаваны моцнатрывалы рыштунак, бо, як вядома, да свайго дзесяцігадовага юбілею папулярная серыя "Помнікі беларускага дойлідства" назапасіла цэлы шэраг цікавых кніг іншых нашых вядомых даследчыкаў.

З нагоды гэтых усіх прычынаў тут важна прыгадаць і тое, што яшчэ ў 70-х гадах менавіта шаноўным спадаром Алегам Трусавым пачаў ажыццяўляцца грунтоўна распрацаваны ім адзін са шматлікіх ягоных бліскучых праектаў – бадай што ўвесь асноўны збор дакументальных і навуковых звестак аб гісторыі Лідскага замка. А, пачынаючы з 1976 г., на працягу больш пяці гадоў на тэрыторыі замчышча гэтага выдатнага архітэктурнага помніка 14 ст. непасрэдна самім сп. Трусавым і пад яго ж кіраўніцтвам праводзіліся галоўныя археалагічныя раскопы і доследы. Плён такой велізарнай доследнай працы шаноўнага навукоўца, апроч выяўленых шматлікіх каштоўных матэрыяльных сярэднявечнага датавання рэчаў, папоўніўся яго грунтоўнымі манаграфіямі і шэрагам папулярных публікацый па старажытнай гісторыі Лідчыны, Вялікага Княства Літоўскага і інш. Да ўсяго гэтага трэба прызнаць, што нам, лідзянам, як і Таварыству беларускай мовы, надзвычай пашчасціла, што маем такога выдатнага навукоўца і руплівага кіраўніка, дзякуючы намаганням якога і справы ТБМ апошнім часам відавочна паляпшаюцца.

Мэтаю ж візіту шаноўнага госця і ягонага супрацоўніка і сябра было найперш дэталёвае азнаямленне з працаю па адраджэнню і пашырэнню на Лідчыне нашай Нацыянальнай Святыні – Роднай мовы.

Сябры гарадской і раённай Радаў ТБМ распавялі аб праведзеных летась і запланаваных надалей мерапрыемствах. Падчас гутаркі з сябрамі ТБМ і ТБШ сп.сп. Алег Трусаў і Сяргей Кручкоў распавялі аб перспектывах і эфектыўных метадах па ўдасканаленні практычнай працы ТБМ, прывялі шэраг паспяхова ажыццёўленых у іншых рэгіёнах і месцах рэспублікі яскравых, вартых, так бы мовіць, пераймання прыкладаў, далі многа каштоўных парадаў.

Абмяркоўвалася хада збору подпісаў у падтрымку ідэі адкрыцця Беларускага нацыянальнага універсітэта і многія іншыя неадкладныя пытанні. У прыватнасці, ішла размова аб ладжанні святаў, з нагоды 160-х угодкаў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча.

Вельмі цікаваю і прыемнаю часткай праграмы візіту нашых шаноўных гасцей былі сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі Дзітвянскай СШ Лідскага раёна і Лідскай СШ № 4, пасля якіх многія са школьнікаў уступілі ў ТБМ.

Сп. Алег Трусаў і Сяргей Кручкоў наведалі Цэнтральную бібліятэку імя Янкі Купалы і спрэзантавалі каштоўныя кніжныя выданні, пабывалі ў Лідскім замку.

*Юры Карэйва.*

# Канверт з выявай Францішка Багушэвіча



Па прапанове Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь 13 сакавіка 2000 г. выпусціла канверт накладам 200 тысяч асобнікаў з выявай Францішка Багушэвіча да 160-ых угодкаў нараджэння.

Заклікаем прыхільнікаў роднай мовы карыстацца гэтым канвертам у ліставанні. Дзяржаўныя і прыватныя ўстановы могуць набыць новы канверт у Менску на Галоўпаштамце па безнаяўным разліку.

# Суд адкладзены з-за мовы

**29 лютага адбыўся чарговы раунд, так званай апраўдаўчай судовай справы сп. Самойленкі.**

**Сэнс яе ў тым, што Самойленка Генадзь адсядзеў 10 сутак у ІЧУ. Але ў судовай справе былі парушаны правы грамадзяніна: адмоўлена ў адвакаце і сведках. Абласны суд адмяніў пастанову Ленінскага РаУСа. Справа накіравана на перагляд.**

**У час яе разгляду сведка Беласін Яўген адмовіўся даць сведчанні на рускай мове. Быў зроблены перапынак. Суддзя сп. Шанацюк М.П. шукаў перакладчыка з беларускай мовы. Але такога ў Ленінскім РаУСе не знайшлося і справу перанеслі на невядомы тэрмін.**

**Васіль Барболін.**

# Лідская рада ТБМ імя Ф. Скарыны інфармуе

Лідская рада ТБМ імя Ф. Скарыны ўдакладняе банк звестак на ўдзельнікаў мерапрыемстваў праведзеных у 1998-1999 гг.

Пісьмовыя уражанні школьнікаў і іх бацькоў просім высылаць па адрасу: 231000 г.Ліда вул Багратыёна 6-108.

Паралельна фармуецца група школьнікаў Лідчыны, з якімі плануецца праца ў 2000 годзе.

Аснову групы складуць:

1. Школьнікі з маламаёмых сем'яў Лідчыны і выхаванцы дзіцячага дому, якія добра вучацца, цікавяцца краязнаўствам, гісторыяй, беларускай культураю і моваю.

2. Пераможцы алімпіядаў, конкурсаў і іншых адукацыйных і культурніцкіх мерапрыемстваў

Плануецца ў 2000 годзе праводзіць: вандроўкі ў Горадню, Наваградак, Мір, Нясвіж, Менск, Берасце, Полацк і іншыя. Велапрабег – Ліда-Вільня-Тракай-Ліда, летнік на Львоўшчыне.

Кантактны тэлефон: (01561) 5-33-42

# Войславу Савіч-Заблоцкаму – 150 гадоў

Іншы раз проста дзіву даешся наколькі багата беларуская зямля на таленты, і адначасова ахоплівае жах. Жах за сваё беспамятства, за тое, што не шануем здабыткі землякоў сваіх. Проста забываем, што яны здзейснілі, якімі былі людзьмі.

Пісьменнік Войслаў Суліма-Савіч-Заблоцкі нарадзіўся 15 сакавіка 1850 года ў маёнтку Панчаны Дзісненскага павету (зараз – гэта Міёрскі раён Віцебскай вобласці). Выхоўваўся будучы паэт, празаік публіцыст у маёнтку дзеда, што знаходзіцца на тэрыторыі цяперашняга Шумілінскага раёна. Там пазнаёміўся з сялянскім бытам, даведаўся як жыве просты народ, вывучыў яго гаворку. Куды толькі не кідаў лёс гэтага чалавека: Пецярбург, Варшава, Кракаў, Познань, Львоў, Прага, Швецыя, Германія, Егіпет, Францыя, Бельгія. Што толькі не было ў яго жыцці: журналістыка, турмы, высылкі, голад дый шмат што іншае.

Вучыўся Войслаў у Віленскай гімназіі, затым набываў адукацыю ва універсітэтах Прагі, Ляйпцыга, Страсбурга.

У Пецярбургу ўзначаліў суполку "Беларускі звязок". На мэце дзейнасці якой сярод іншага было збор фальклору, падрыхтоўка слоўніка. Царскія ўлады забаранілі дзейнасць суполкі, а яго кіраўніка саслалі ў Варшаву пад нагляд паліцыі. Тут Савіч-Заблоцкі друкуе на польскай мове сатырычную паэму "Праўдападобная гісторыя", а таксама творы пра Мікалая Каперніка. У 1873 годзе ён дасылае ў часопіс "Веснік Европы" тры беларускія вершы і ліст, дзе напісаў пра неабходнасць распрацоўкі гэтае мовы. У гэты час ён актыўна супрацоўнічае ў польскіх, французскіх, нямецкіх газетах і часопісах.

У 1880-ыя гады жыў у Парыжы. У 1882 годзе падараваў верш на беларускай мове паэту Б.Залескаму "Беларуская пея". (Даследчык Я. Янушкевіч адшукаў яго арыгінал у Кракаве ды распаведаў пра аўтара і яго твор у кнізе "У прадчуванні знаходак"). У 1885 годзе Савіч-Заблоцкі ў Познані надрукаваў аповесць "Полацкая шляхта". Летам 1887 года паэт вяртаецца на радзіму і працуе ў "Віленском вестнике", жыве ў цёткі на Лепельшчыне.

У 1891 годзе ён зноў у Пецярбургу.

Дакладная дата смерці Войслава Савіч-Заблоцкага невядома, а апошні дакумент пра яго сведчыць ад 3.02.1893 г. – ліст рэдактара "Биржевых ведомостей". Беларускія вершы паэта "З чужбіны", "У роднай зямлі", "Да перапёлкі" надрукаваны ў часопісе "Беларусь" у 1946 годзе ў чацвёртым нумары. Пасля яны змяшчаліся ў хрэстаматыі "Беларуская літаратура XIX стагоддзя" (1971, 1988).

І сёння рукапісы Савіч-Заблоцкага знаходзяцца ў архівах і бібліятэках Менска, Вільні, Масквы, Львова, Санкт-Пецярбурга, Польшчы. Творчасць яго чакае сваіх даследчыкаў.

***Язэп Палубятка.***

## "Настаўнік года" вызначаны

**Настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ №5 г. Масты Светлана Палубятка заваявала ганаровае званне "Настаўнік года". Цяпер яна будзе прадстаўляць Мастоўскі раён на падобным конкурсе ў вобласці.**

**Антон Макей.**

# Пачалі адзначаць 10-годдзе

*16 сакавіка у Беларускім універсітэце культуры адбылася юбілейная вечарына, прысвечаная 10-м угодкам газеты "Наша слова". У вечарыне прмалі ўдзел студэнты і выкладчыкі БУКа. Рэдкалегію рэпрэзантавалі Алег Трусаў, АнатольГрыцкевіч, Людміла Дзіцэвіч.*



## Пятру Ламану – 50

50-гадовы юбілей адзначыў Пётр Ламан -- акцёр Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. На коласаўскай сцэне ён іграе з 1971 года, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. За гэты час сыграў нямала роляў, любімымі з якіх сталі роля Юрася з "Несцеркі" Віталя Вольскага, лейтэнанта з п'есы "Радавыя" А. Дударава.

Але Пётр Ламан не толькі выдатны акцёр, ён яшчэ і пісьменнік, сябар Саюза пісьменнікаў краіны. З-пад яго пяра выйшлі зборнікі вершаў і прозы.

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

